

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша Слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 13(347) 8 КРАСАВІКА 1998 г.

# ХРЫСТОС УВАСКРОС

**... Хрыстос уваскрос !**

З вялікім святам адвечнага аджыўлення віншую цябе, Вялікі Беларускі Народ !

Гэтай вялікай ночы страсі з сябе ўсю пагарду, увесь бруд, каторым аблепліваюць цябе ад вякоў. Чыста вымыйся, прыбярыся ў найлепшую вопратку, каб хоць на адзін дзень стаў ты роўным з усімі. Ідзі туды, дзе пачуеш гэтыя вялікія словы:

**Хрыстос уваскрос !**

Услухайся ў іх. Якая вялікая сіла, які ўсёажыўляючы змест захаваны ў іх. Ці не чуеш, як радасцю надзеі, радасцю скорага ўваскрэсення вее на цябе ад гэтых слоў:

**Хрыстос уваскрос !**

Радуйся, мой родны край. Надзея, як жывучая вада, ліецца ў тваю душу. Скора і ты ўваскрэснеш ад доўгага мёртвага сну. Вясна прыйшла і да цябе.

**Хрыстос уваскрос !**

Над ім здзекаваліся. Яго білі па твары, сцябалі бізуном. Плявалі на яго. Кпілі з яго. У канцы распялі і распятага не пераставалі мучыць. Спечананыя смагай вусны звільжывалі воцатам і жоўцю.

Ён памёр на крыжы паміж двух разбойнікаў. Але ўсё ж такі **Хрыстос уваскрос !**

Уваскрос Хрыстос, і крыж, раней знак пагарды і сораму, зрабіўся святыняй усяго свету. Мукі Хрыстовы змылі ўсё з яго. І штогоду вялікай вясенняй ночы тысячы цэркваў і касцёлаў свеціцца агнямі свечак, ліецца радасны пераклік званоў, крыж падымаецца над мільёнамі схінёных галоў і ў паветры носіцца радасны шэпт:

**— Хрыстос уваскрос !**

Што гавораць табе званы, Беларускі Народ? Ці не віншуюць яны цябе з тваім уласным вялікім святам? Скора ж і ты ўваскрэснеш!

Ад вякоў пагарджалі табой, тваёй мовай; ад вякоў мелі за быдла, годнае толькі на цяжкую, надсільную работу. Не давалі табе расці і развівацца. Воцатам чужой культуры звільжалі твае спячоныя смагай вусны. Лепшых тваіх сыноў адрывалі ад цябе, прымушалі іх зрабіцца здраднікамі.

А хіба ж яны не любілі цябе? Хіба лепшы жар свайго сэрца ахфяравалі яны не табе? А дзе яны?

Іх няма з табой. З самага малку адарвалі ад роднай глебы, атруцілі здрадай. І іх, тваіх дзяцей, маюць за зброю проці цябе.

Цябе катавалі. Ты цярпеў мукі, але не ўмёр. Глыбока, глыбока ты захаваў сваю душу.

Хрыстос быў з табою у тваіх муках; і ён разам з табою цярпеў іх. Колькі разоў распіналі яго разам з табой! Больш разоў, чым ёсць пясчынак на дне мора! Але кожнага году па ўсёй Беларускай зямлі разносіцца кліч:

**– Хрыстос уваскрос!**

*Дагэтуль мы плачам, дагэтуль мы стогнем,*
*Адвечных ня можам пазбыцця слёз...*

Ты ўжо перастанеш плакаць. Ты падняў свой твар, з надзеяй ловіш зыкі званоў:

"Бом! бом! .. Прачынайся ад сну, Беларусь! Годзе стагнаць ды жаліцца, жальба нічога не дасць табе. Уставай! Ідзі будаваць зруйнаваную Бацькаўшчыну !"

*Наперад па шчасце ! Хай злое ўсё дрогне!*
*Вясна ўжо на свеце — **Хрыстос уваскрос !***

Я бачу, як святлее твой твар, мой родны краю. І, поўны сілы і веры, я крычу ва ўсю моц тваім нівам, лясам і балотам, тваім панурым вёскам, тваім пакрыўджаным сынам:

— З вялікім святам віншую! З вялікім святам, Вялікі Беларускі Народ !

**— Хрыстос уваскрос !**

**1910г. Сяргей Палуян.**

Самыя шчырыя пажаданні вернікам з нагоды Вялікага Дня ўсіх хрысціян.

Каб уваскросшы Хрыстус гаспадарыў сэрцамі кожнага і кожнай.

Каб у душах ўмацованых праз святыя сакраманты біла крыніца Міласці Сапраўднай.

Каб у нашых сем'ях усталяваліся згода, паяднанне, прабачэнне і супакой.

Каб пад час кожнага паўстання з мёртвых Сына БОЖАГА паўставаў да сапраўднага і годнага жыцця кожны з нас і ўвесь Край наш Беларускі.

Каб кожнае нядзельнае спатканне з Хрыстусам умацоўвала нас для дарогі па шэрых штодзённых буднях да лепшай долі.

**Хрыстус уваскрос!!!**
**Яго і трымаймася!!!**

*Ксёндз Юзаф,*
*пробашч парафіі*
*Святой Сям'і, г. Ліда*

## Чатыры тыдні ў сакавіку

Прыватны аглад беларускага друку.

***Паленіка вакол савецкае спадчыны ў беларускай літаратуры (ЛІМ №2,3,5,9; Наша Слова №8; Наша Ніва №6).***

***Штоквартальная артпадрыхтоўка да падпіскі ("Звязда", "Навіны", "Народная Воля").***

***Я. Купала. Поўны збор твораў, том 4. Вершы, пераклады, 1915-1929.***

Багаты на розныя падзеі, у тым ліку інфармацыйныя, быў сакавік. Гэттым аглядам хачу звярнуць увагу не толькі на слаўны юбілей Беларускае Народнае Рэспублікі і не на жарсці вакол заліхаманіўшага "зайчыка". Мне падаецца мэтазгодным засяродзіцца на падзеях менш экспанаваных, якія, на маю думку, пазначаюць тэндэнцыі цэлага кварталу.

З гэтых меркаванняў на першым месцы стаіць палеміка вакол савецкае спадчыны ў беларускай літаратуры, распачатая артыкулам С.Дубаўца (ЛІМ,№2). Для мяне стала нечаканасцю, што гэты артыкул выклікаў такую гарачую рэакцыю. Чаму ж гэты досыць бяскрыўдны, ( і таму лёгкі для палемічнай атакі) артыкул выклікаў столькі эмацыйных водгукаў ? Думаю, прычынаў дзве. Першая: вонкава сталітычная праблематыка дадала смеласці людзям розных перакананняў. Другая: па-сутнасці С.Дубавец закрануў нашмат шырэйшыя праблемы, чым лёс твораў Глебкі ці Куляшова. Уласна кажучы, планы Дубаўца наконт літаратуры вельмі простыя, зразумелыя і зусім нерадыкальныя. Але фактычна — распачаты доўгачаканы суд над ідэалогіямі мінулага і фармаванне ідэйнае базы будучай Беларусі.

Адсюль гарачыня і зацятасць, часам, як мне здалося, незразумелыя нават для саміх удзельнікаў дыскусіі. Мяркую, праз некаторы час сп.Дубавец падсумуе яе вынікі каб выкрыць гэты, сапраўдны сэнс размовы.

Што праблемы беларушчыны чужыя нашаму грамадству, уважлівы чытач меў нагоду — у які ўжо раз — пераканацца, назіраючы сезонныя зрухі ў тэматыцы выданняў, што арыентуюцца на людзей, што чытаюць пабеларуску. Прыйшла каза да ваза: трэба збіраць падпіску, а чытача не купіш на гладкія — не ўчэпішся — тэксты, любыя, мусіць, толькі цэнзарам. Чытач шукае артыкулы па казённай класіфікацыі "неадназначныя", праблемныя, і не пра Багамскія Выспы, а пра Беларусь. Таму ў адпаведным часе знайходзяцца цікавыя субяседнікі, каб пазнаёміць нас з таямнічым беларускім вайсковым майстэрствам (Звязда 20. 03.98) і не менш таямнічымі спружынамі валютна-фінансавых катаклізмаў. Нехта дасылае лісты пра стан беларускае мовы. У "Навінах" з'яўляюцца артыкулы Пазьняка і Старыкевіча. Ведаюць, значыцца, ў рэдакцыях, што падпісчык шукае не Паўла Глобу, прынцэсу Дыяну ці Філіпа Кіркорава. Яму падавай нешта пра яго і ягоную краіну.

Нарэшце , яшчэ адна публікацыя, што даносіць да нас, між іншым, водгулле векапомных падзеяў сакавіка 1918-га года. Трапіў да чытачоў чацвёрты том "Поўнага збору твораў" Я.Купалы. Ён змяшчае напісанае ў 1915-1929 — у час незвычайны, калі ідэі Адраджэння шукалі і знаходзілі свае шляхі ў рэальным жыцці. Страшны час, які прымусіў быў паэта замоўкнуць на некалькі год. Вельмі розныя можна сустрэць у гэтым томе вершы, у вольны час можна над ім паразважаць і пра тое, які выцягнуць з гэтага досвед. Чалавечы лёс няпросты: не развядзеш яго па розных кніжках, а ў адну не схаваеш. А ўсё ж, а мо дзякуючы таму — жыве Беларусь !

Д.Ж.

## Вынікі падпіскі

Рэдакцыя атрымала інфармацыю па выніках падпіскі на газету "Наша слова" у другім квартале 1998 года. У красавіку ў параўнанні са студзенем па абласцях і раёнах гэта выглядае так:

| Назва горада ці раённага цэнтра | Падпісана у студзені | у красавіку |
|---|---|---|
| Менск, гор. | 220 | 346 |
| **Берасцейская вобласць** | | |
| Баранавічы | - | 17 |
| Бяроза | - | 7 |
| Бярэсце | 8 | 7 |
| Ганцавічы | 2 | 4 |
| Іванава | 2 | 1 |
| Камянец | 3 | 2 |
| Кобрын | 4 | 3 |
| Лунінец | - | 1 |
| Ляхавічы | 1 | 1 |
| Пінск | 2 | 3 |
| Пружаны | - | 1 |
| Столін | 3 | 3 |
| Усяго | 28 | 50 |
| **Віцебская вобласць** | | |
| Браслаў | 6 | 9 |
| Віцебск, гор. | 15 | 19 |
| Віцебск, РВПС | 1 | 1 |
| Верхнедзвінск | 8 | 8 |
| Глыбокае | - | 5 |
| Гарадок | 1 | 2 |
| Докшыцы | - | 1 |
| Дуброўна | - | 2 |
| Круляўшчызна | - | 2 |
| Міёры | 3 | 4 |
| Наваполацк | 4 | 9 |
| Орша | - | 1 |
| Полацк | 3 | 13 |
| Паставы | - | 3 |
| Ушачы | 2 | 2 |
| Талочын | 1 | 1 |
| Чашнікі | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына | 2 | 2 |
| Шуміліна | 1 | 1 |
| Бешанковічы | 1 | - |
| Усяго | 49 | 86 |
| **Гомельская вобласць** | | |
| Буда-Кашалёва | 2 | 2 |
| Брагін | 1 | 1 |
| Гомель, гор. | 17 | 19 |
| Гомель,РВПС | 1 | 1 |
| Добруш | 1 | 1 |
| Жлобін | - | 6 |
| Калінкавічы | 1 | 1 |
| Мозыр | 3 | 4 |
| Рэчыца | 3 | 3 |
| Светлагорск | 9 | 9 |
| Хойнікі | - | 1 |
| Чачэрск | 1 | 1 |
| Петрыкаў | 1 | - |
| Усяго | 40 | 49 |
| **Гарадзенская вобласць** | | |
| Бераставіца | 1 | 3 |
| Ваўкавыск | 4 | 7 |
| Воранава | 1 | 9 |
| Гародня, гор. | 26 | 43 |
| Гародня, РВПС | 3 | 10 |
| Дзятлава | - | 16 |
| Зэльва | 1 | 3 |
| Іўе | - | 5 |
| Карэлічы | 4 | 3 |
| Масты | 5 | 6 |
| Навагрудак | 4 | 6 |
| Астравец | - | 1 |
| Ашмяны | 19 | 22 |
| Смаргонь | 4 | 5 |
| Слонім | 10 | 7 |
| Свіслач | 3 | 2 |
| Шчучын | - | 5 |
| Ліда | 52 | 109 |
| Усяго | 137 | 262 |
| **Менская вобласць** | | |
| Бярэзіно | 1 | 2 |
| Барысаў | 2 | 5 |
| Валожын | 4 | 5 |
| Дзяржынск | 3 | 5 |
| Жодзіна | 3 | 5 |
| Лагойск | - | 10 |
| Капыль | 1 | - |
| Любань | 1 | 2 |
| Менск РВПС | 4 | 6 |
| Маладзечна | 6 | 8 |
| Мядзель | 3 | 3 |
| Пухавічы | 3 | 7 |
| Нясвіж | 3 | 2 |
| Смалявічы | - | 1 |
| Слуцк | 6 | 5 |
| Салігорск | - | 6 |
| Ст.Дарогі | 1 | 1 |
| Стоўбцы | 2 | 3 |
| Узда | - | 3 |
| Чэрвень | 3 | 2 |
| Фаніпаль | - | 1 |
| Усяго | 46 | 82 |
| **Магілёўская вобласць** | | |
| Бабруйск | 2 | 2 |
| Горкі | 12 | 2 |
| Клімавічы | 2 | 6 |
| Касцюковічы | 1 | 1 |
| Магілёў | 7 | 14 |
| Асіповічы | 4 | 3 |
| Слаўгарад | - | 2 |
| Усяго | 28 | 30 |

Такім чынам паводле сакавіка, калі мы мелі 617 падпісчыкаў, у красавіку стала 905. Найбольшы прырост далі Меншчына і Гарадзеншчына і асабліва Менск ды Ліда .

Ізноў у спісе няма Вілейкі, хаця там людзі падпісваліся, пра што пісалі ў рэдакцыю. Мы можам параіць толькі адно, шаноўныя вiляйчане, падавайце ў суд на сваю пошту. Інакш вы іх не праймеце.

У красавіку падпіска ахапіла ўсе раёны Гарадзеншчыны. У астатніх абласцях горш, асабліва дрэнна на Магілёўшчыне.

Тым не менш вынікі падпіскі дадаюць нам аптымізму. Рэдакцыя выказвае шчырую падзяку ўсім хто стаў у адзін шэраг з "Нашым словам" у справе змагання за Беларушчыну.

Станіслаў Суднік..



№ 13(347) 8 КРАСАВІКА 1998 г. наша СЛОВА

# Звесткі з навучальных установ Беларусі



**Аляксей Саламонаў,**
прафесар, старшыня Менскай гарадской рады Таварыства Беларускай мовы.

## Адна з першасных нашых задач – павышэнне нацыянальна-этнічнай самасвядомасці беларусаў.

Якімі б мы далікатнымі і этычнымі не былі, але ж настаў час, калі дыягназ стану беларускасці ў самой Беларусі трэба называць па-медыцынску сапраўдным. Таму даводзіцца зычна, з гучаннем на ўвесь Свет казаць: стан беларускасці вельмі крытычны наогул, а ў моўных адносінах — у асаблівасці. І калі нічога не рабіць, то ён пяройдзе — у перадсмяротны. Якія ж лекі прымяняць? З самых галоўных на першым месцы бачыцца неабходнасць уздыму нацыянальнай свядомасці беларусаў, кім бы яны ні былі, на якой пасадзе не працавалі, які б узрост не мелі і дзе б яны не жылі. Бо толькі яна можа згуртаваць нас уратавальна як усіх прыбалтаў, як армян Нагорнага Карабаха і, прабачце, як у добрым сэнсе, чачэнцаў. Каб аніякія прэзідэнты, аніякія ціскі ў "Саюз — больш моцны, чым СССР", не прымусілі нас здрадзіць, прагаласаваць за самазнішчэнне ў этнічных адносінах. Лякарствам для атрымання такой еднасці і згуртаванасці з'яўляецца нескажоная, сапраўдная інфармацыя: аб нашай Сукупнай Беларускай Душы; аб нашай самабытнай, Богам дадзенай сутнасці; аб асаблівасцях нашага мыслення праз мову; аб яе прыгажосці, аб здзеках над ёю; аб добрых учынках беларусаў і выхаванцаў беларускай зямлі, куды б яны не былі закінуты лёсам, аб адданасці справам беларускасці асобных людзей пры любой іх нацыянальнасці; аб нашых здольнасцях і дасягненнях на галоўным фоне служэння людзей Разумнаму, Добраму, Вечнаму. З гэтай мэтай добра будзе, калі "Наша слова" стане "Словам Душы Беларускай".

І калі газета ў кожным нумары будзе мець старонку "Звесткі з беларускіх навучальных установ". Такая старонка падрыхтавана кафедрай беларускай мовы Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Падрыхтаваў матэрыял для такой старонкі і я па выніках беларускамоўнай дзейнасці Гарадзенскага універсітэта і Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта. Яго я і прапаную чытачам. Адначасова выказваю упэўненасць, што такая старонка будзе заўжды напоўнена цікавым і карысным для спраў беларускасці матэрыялам. Было б добра, каб перайМальна гэтая старонка займалася школамі, тэхнікумамі, гімназіямі, ліцэямі, СПТУ, ВНУ.

## Але ж ёсць такія ВНУ, якія і ў сучасных неспрыяльных умовах для беларускасці служаць яе караням.

Гарадзенскі універсітэт, які з гонарам носіць слаўнае імя Янкі Купалы, адзін са старэйшых універсітэтаў рэспублікі, бо ў 1998 годзе будзе 20 гадоў, як ён існуе ва універсітэцкім статусе. ГрДУ імкнецца стаць сапраўдным цэнтрам адукацыі, навукі і культуры ў рэгіёне. Гарадзенскі рэгіён вядомы сваёй адметнай гісторыяй і складанымі этнасацыяльнымі, полікультурнымі традыцыямі, якія склаліся натуральным чынам на працягу стагоддзяў.

Будучы, як і любы універсітэт свету, па сваёй сутнасці інтэрнацыянальным, ГрДУ захоўвае нацыянальную, беларускую, адметнасць.

Гэта відаць па асаблівасцях падрыхтоўкі спецыялістаў, накіраванасці навуковых даследванняў, спецыфіцы міжнародных мерапрыемстваў, якія праводзяцца пад эгідай універсітэта.

Менавіта тут можна сустрэць такія кафедры, як беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства (побач з традыцыйнымі кафедрамі беларускай мовы і агульнага і славянскага мовазнаўства), беларускай культуры (побач з кафедрай тэорыі і гісторыі сусветнай культуры).

Менавіта тут на любым факультэце можна пачуць ва аўдыторыях беларускую гаворку, бо лекцыі на беларускай мове чытаюцца шэрагам выкладчыкаў і будучым фізікам і матэматыкам, і гісторыкам, і нават будучым выкладчыкам замежных моў.

Рэктар універсітэта, дэканаты зыходзяць з той пазіцыі, што кожны выпускнік універсітэта павінен валодаць не толькі гутарковай, але і прафесійнай беларускай мовай. Гэта думка знайшла адлюстраванне ў канцэпцыі гуманізацыі і гуманітарызацыі вышэйшай адукацыі, якая распрацоўваецца зараз ва універсітэце. Дарэчы валодаць беларускай мовай павінны тут усе супрацоўнікі, бо справаводства ва універсітэце вядзецца па-беларуску.

Многія навуковыя даследванні накіраваны на захаванне культурнай спадчыны беларускага народа і на аналіз сучаснага стану яго існавання. Гэта: "Этнасацыяльныя і культурныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі: гісторыя і сучаснасць", "Беларуская гістарыяграфія XX ст. у кантэксце славянскіх гістарыяграфій Усходняй Еўропы (Расія, Польшча, Украіна) (1940-1990гг.)", "Лексіка і словаўтварэнне Гарадзеншчыны", "Праблемы нармавання сучаснага варыянту літаратурнай мовы", "Асаблівасці рэгіянальнага развіцця літаратуры. Пісьменнікі Гарадзеншчыны" і іншыя.

Навуковым даследваннем служаць і новыя інфармацыйныя тэхналогіі. Так, лабараторыяй тэарэтычнай і прыкладной лінгвістыкі створана на падставе камп'ютэрных версій драматургічных твораў Янкі Купалы спецыфічная тэкставыя базы звестак, якія могуць выкарыстоўвацца па Інтэрнэце ў рэжыме ок-лайн і служыць для аўтаматызаванага многапрофільнага лінгвістычнага аналізу.

**Людміла Рычкова,**
кандыдат філалагічных навук, дацэнт, прарэктар па вучэбнай рабоце Гарадзенскага універсітэта.

## Створана моўная камісія

Як вядома, 26 студзеня 1990 года на чатырнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР адзінаццатага склікання быў прыняты Закон аб мовах, які надаў беларускай мове статус дзяржаўнай. Гэты статус быў замацаваны Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь узору 1994 года, а таксама новай рэдакцыяй Канстытуцыі пасля рэферэндуму 1996 года. Пачынаючы з 1990 года наш універсітэт многае зрабіў у плане беларусізацыі і выканання Закона аб мовах: беларуская мова стала рабочай мовай Вучонага савета, практычна ўсе факультэты перайшлі на выкладанне вучэбных дысцыплін па-беларуску, створаны беларускамоўныя падручнікі і вучэбныя дапаможнікі, пераведзена на беларускую мову справаводства.

Цяпер, калі і расейская мова стала дзяржаўнай, у некаторай часткі нашага грамадства склалася не зусім правільнае ўяўленне аб дзяржаўным двухмоўі, у краіне намеціўся пэўны адыход ад дасягнутага раней. Мы ж рыхтуем педагогаў, якія павінны і добра валодаць роднай мовай, і ведаць сваю нацыянальную культуру і гісторыю свайго краю. Па гэтай прычыне загадам рэктара пры навукова-метадычным савеце універсітэта створана моўная камісія, у якую ўвайшлі У.Д. Атрошчанка (старшыня), М.С. Яўневіч (намеснік старшыні), А.П. Груца, А.У. Рагуля, М.В. Гваздовіч, Л.М. Грыгор'ева, Д.У.Дубінін, А.А. Каваленя, В.В. Карпуць, К.К. Кудло, А.І.Лугоўскі (намеснік старшыні), П.А.Міхайлаў, А.А. Шамак.

Задача камісіі — падтрымаць беларускую мову. Не навязваць, а менавіта падтрымаць, захаваць той накірунак, па якім ішоў і ідзе наш універсітэт.

Камісія робіць першыя крокі. Па яе ініцыятыве аб'яўлены конкурс на лепшы беларускамоўны падручнік, пры кафедры беларускага мовазнаўства створаны кансультацыйны пункт, на некаторых факультэтах прайшоў першы тур алімпіяды па беларускай мове, праведзены рэспубліканскія Танкаўскія чытанні, хутка пачне дзейнічаць метадалагічны семінар па пытаннях гісторыі, культуры і літаратуры.

5 снежня адбылося паседжанне моўнай камісіі, на якім было заслухана пытанне аб выкарыстанні беларускай мовы ў вучэбным працэсе на фізічным факультэце і на дзвюх агульнауніверсітэцкіх кафедрах — псіхалогіі і паліталогіі.

Прыемна ўразіла паведамленне дэкана фізфака прафесара У.А. Якавенкі. Факультэт адным з першых перайшоў на беларускую мову навучання і планамерна ідзе ў гэтым накірунку далей, тут створаны цэлы комплекс вучэбна-метадычнай літаратуры. Добрыя напрацоўкі ёсць і на вышэйназваных кафедрах (загадчыкі Н.А.Цыркун і Н.В.Паўлава).

На паседжанні былі ўзняты і сур'ёзныя праблемы, з якімі сутыкнуліся нашы выкладчыкі. Галоўная з іх — цяжкасці, звязаныя з выданнем створаных ужо беларускамоўных падручнікаў. Абмяркоўвалася і пытанне аб мэтазгоднасці і правамернасці перакладу расейскіх падручнікаў. Выявілася таксама і негатыўная практыка, калі выкладчык, нібы жадаючы даць магчымасць студэнтам самім выбраць мову выкладання, праводзіць некарэктнае апытанне і фактычна навязвае сваю волю, звычайна не на карысць беларускай мове.

А між іншым, мы атрымалі цікавыя звесткі з прыёмнай камісіі. У 1997 годзе 72% абітурыентаў без падказкі зрабілі свой выбар і пісалі сачыненне па-беларуску.

У перспектыве камісія плануе перыядычна заслухоўваць асобныя факультэты і кафедры, у сакавіку Вучонаму савету універсітэта будзе прадстаўлена аналітычная даведка аб стане выкладання на беларускай мове дысцыплін, уключных у вучэбны план. У бліжэйшы час мяркуецца наладзіць самыя цесныя кантакты з Таварыствам беларускай мовы і Саюзам пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь, ужо вядзецца супрацоўніцтва з паэтычным тэатрам аднаго акцёра "Зьніч" і Беларускім навукова-метадычным цэнтрам гульні і цацкі.

Спадзяёмся, што ўсе факультэты падтрымаюць камісію ў яе высакароднай справе.

**А.Лагоўскі,** *дэкан беларускай філалогіі і культуры Дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка*



**Павел Сцяцко**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

(Працяг. Пачатак у NN 5-7,12)

### Паліва - а не гаручае

Слова "*гаручае*" слоўнікі тлумачыць так: "Паліва для рухавікоў (нафта, бензін і інш.) (ТСБМ.Т.2.Мн., 1978.С.34). Адсюль таксама відаць, што гэтае "*гаручае*" - штучнае ў беларускай мове слова, механічна перанесеннае ў беларускую мову з расейскае. Утварэнні з суфіксам **-уч-** беларускай мове неўласцівыя. Параўн. рас. горючие слёзы - горкія слёзы.

Сучасныя тэрміналагічныя слоўнікі рас. ***горючее*** перакладаюць, як ***паліва***. Яно добра матывуецца ("тое, што паліцца") і мае натуральную беларускую будову (суфікс ***-іва***). Так, у "Руска-беларускім фізічным слоўніку" У.Самайлюковіча, У.Пазняка, А. Сабалеўскага (Мн.,1994.С.43) бачым: ***горючее - паліва***. Гэта ж фіксуе і "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава (Мн.,1997.С.42): горючее - ***паліва, горюче-смазочный - паліва-замазкавы, жидкое горючее - вадкае паліва, ядерное горючее - ядзернае паліва.***

У расейскай мове словы ***горючее*** і ***топливо*** выступаюць, як тоесныя: ядерное топливо і ядерное горючее. Таму ў беларускай мове у абодвух выпадках выкарыстоўваецца гэтае натуральнае слова ***паліва.***

Семантычна і структурна рас. ***горючее*** адпавядае і бел. ***гарыва*** "тое, што гарыць". Як і паліва "тое, што паліцца". Або: параўн. : ***гарыўная*** і ***паліўная*** вадкасць - ***горючая*** жидкость (Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава. Мн.,1997. С.60)

### Дрыготны і дрыготкі - а не дрыжачы.

"Вочы яго свяціліся, усмешка блукала па твары і гучаў залівісты смех, і нават дрыготкі напачатку голас узмацнеў, набыў танкоўскае гучанне" (Полымя, 1997. №9.С.226)."Ды і ты б на яго месцы паверыў, калі б пачуў мой дрыготны голас і ўбачыў натуральныя слёзы "(Сымон Белы. Пра дзядзьку Якуба // Полымя. 1997. №10.С.267); ***дрыготкае*** святло - ***дрожащий*** свет (РБС-93.Т.І. С.409). Словы ***дрыготны*** і ***дрыготкі*** ўтвораныя ад назоўніка ***дрыгота***, які выступае, як словаўтваральны сінонім да ***дрыжыкі, дрыжанне*** (Гл. РБС-93. Т.І. С.409: ***дрожь ж. дрыжыкі, дрыжанне, дрыгота***). Як бачым, беларуская мова на месцы рас. суфіксаў ***- ащ-(-ящ-), ущ-(-ющ-)*** мае свае адметныя натуральныя словаўтваральныя сродкі - суфіксы ***- н-*** і ***-к-***. Параўн. ***плыўкі***, як адэкватнае рас. ***плавучий***. (С.Суднік, С. Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С.140), а таксама: ***гарыўная*** вадкасць, ***паліўная*** вадкасць - ***горючая*** жидкость (Таксама. С.60).

### Грымотны, бразготны і бразгатлівы - а не грымучы і бразгучы.

Прыметнік ***грымотны*** ўтвораны ад назоўніка ***грымоты*** "раскацістыя гукі грому, бою і пад." і мае два значэнні: 1) Які стварае гром, грымотны; з грымотамі. 2) Моцны, аглушальны. Праз хвілін дзесяць бор аглушыўся грымотным выбухам..." (ТСБМ. Т.2. Мн., 1978. С.88). Яго значэнне і структура досыць выразныя і натуральныя. Слова ***грымучы*** - пазычанне з расейскае мовы, адкуль яно прыйшло як кампанент тэрмінаў; параўн. гремучая змея - ***грымучая змяя; гре***мучая ртуть хім. грымучая ртуць; гремучий газ хім. грымучы газ (РБС-53. С.103). Структура гэтага слова штучная для беларускае мовы: слова створанае паводле расейскай мадэлі "аснова дзеяслова + суфікс -уч-". Параўн. у тэксце: "вір песень грымучых, у адзін голас, у адзін магучы...".

***Бразготны*** - прыметнік утвораны ад назоўніка ***бразгат*** ці дзеяслова ***бразгатаць*** з дапамогаю прадукцыйнага суфікса -н-( з перацягваннем націску на наступны склад слова пад уплывам назоўніка бразготка): ***бразгат*** -ны - >***бразготны***. Наш тлумачальны слоўнік замест гэтага натуральнага слова падае штучную структуру ***бразгучы*** "які можа бразгатаць" (ТСБМ. Т.І. Мн., 1977. С. 399). Ужо з самой дэфініцыі гэтага прыметніка відаць штучнасць структуры ***бразгучы***, бо ад ***бразгатаць*** было б ***бразгучы*** (паводле гэтае штучнае мадэлі). А натуральнае вытворнае слова ад ***бразгатаць - бразготны***. Бачым у слоўніку і прыметнік ***бразгатлівы*** "які ўтварае многа бразгату" (Тамсама. С.398). "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года падае словы ***бразгатлівы*** і ***бразгучы***, як адпаведнікі рас. ***дребезжащий*** (С.130). Аднак "Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй К.Крапівы фіксуе наступнае: "Дребезжащий прил. бразгатлівы, брынклівы" (Т.І.С.231). Тое самае і ў яго перавыданні 1993 года (Т.І. С.406). Як бачым, слова ***бразгучы*** не прызнаецца за літаратурную норму. Гэта пацвярджаецца і тым, што новы "Тлумачальны слоўнік" яго таксама не падае.

# АЦУРАЛІСЯ ЦІ АДВУЧЫЛІ ?

Пры спрыянні Фонда фундаментальных даследванняў Рэспублікі Беларусь,Беларускага фонда Сораса (Праграма "Абнаўленне гуманітарнай адукацыі") , лабараторыі этнічнай і канфесійнай геаграфіі насельніцтва, Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка Камітэтам дзяржаўных знакаў пры Міністэрстве Фінансаў Рэспублікі Беларусь накладам 7 тысяч паасобнікаў у 1996 годзе выпушчаны атлас "БЕЛАРУСЫ: этнагеаграфія, дэмаграфія, дыяспара, канфесіі". Кіраўнік аўтарскага калектыву С.А.Польскі, прафесар, доктар геаграфічных навук, навуковы рэдактар, адказны за выданне атласа В.К.Бандарчык, членкарэспандэнт АНБ. Сярод аўтараў атласа А.В. Саўчэня, К.В. Свірская, Г.І. Рабашлыкава, В.А. Шэленгоўская, А.А. Якаўлеў. Надрукаваны атлас Мінскай картаграфічнай фабрыкай.

Атлас "Беларусы" знаёміць чытачоў з рассяленнем насельніцтва і фармаваннем тэрыторыі Беларусі па перапісах 1897, 1926, 1937, 1959, 1970, 1979, 1989 гадоў. У ім паказана дынаміка долі беларусаў і бларускай мовы сярод насельніцтва краіны, змены ў суадносінах сельскага і гарадскога насельніцтва, у яго дэмаграфіі, полаўзроставай структуры, ва ўзроўні адукацыі. Асобная карта атласа адлюстроўвае перамяшчэнне насельніцтва на тэрыторыі Беларусі, вымушанае Чарнобыльскай катастрофай.

У атласе пададзена разнастайная інфармацыя не толькі ў цэлым па краіне, але і па абласцях і раёнах, буйнейшых гарадах дзяржавы. Есць у ім і асобна згрупаваныя карты, прысвечаныя рассяленню беларусаў у далёкім і бліжнім замежжы, у тым ліку і падрабязная карта беларускай дыяспары ў Польшчы.

... Мяне, як філолага, у першую чаргу зацікавілі дзве старонкі атласа, а менавіта, 16 і 17-ая, на якіх пададзены звесткі пад загалоўкам "Валоданне беларускай мовай беларусамі" (1959, 1970, 1979, 1989г.г.). Падкрэсліваю: беларусамі, бо як валодаюць беларускай мовай прадстаўнікі іншых этнасаў, якія пражываюць у краіне, звестак у атласе не падаецца па зразумелай прычыне — атлас мае назоў "Беларусы", і гэта, як кажуць, усё тлумачыць...

Па стану на 1989 год у краіне пражывала 7 мільёнаў 904 тысячы 623 чалавекі беларусаў. Прааналізаваўшы шэраг дадзеных атласа, я адкрыў для сябе вельмі прыкрыя вынікі: у 1989 годзе ўжо 1 мільён 563 тысячы 546 беларусаў Беларусі адцураліся сваёй роднай мовы (ацураліся ці адвучылі?..). Давайце паглядзім болей падрабязна на стан беларускай мовы ў абласцях, гарадах абласнога падпарадкавання. Пачнём са сталіцы Беларусі. Па стану на 1989 год у Менску пражывала 1 мільён 153 тысячы 595 чалавек, з якіх лічаць роднай мовай беларускую мову 710 тысяч 509 чалавек, а адракліся ад роднай мовы 443 тысячы 086 чалавек беларускай нацыянальнасці. Па Менскай вобласці бачым такую карціну: з 586 тысяч 420 чалавек лічаць беларускую мову роднай 506 тысяч 836 чалавек, адракліся роднае мовы 79 тысяч 584 чалавекі. Гэта паказчыкі сярод гарадскога насельніцтва. Але і сярод сельскага насельніцтва таксама бачым адрачэнцаў ад сваёй роднай мовы, — іх у Менскай вобласці 18 тысяч 458 чалавек з 753 тысяч 007 чалавек.

ПА Берасцейкай вобласці назіраем наступнае: гарадскіх беларусаў 624 тысячы 883 чалавекі, з якіх 199 тысяч 940 чалавек не лічаць беларускую мову сваёй роднай мовай; з 574 тысяч 853 чалавек сельскіх беларусаў адракліся ад роднай мовы 24 тысячы 030 чалавек. У Гарадзенскай вобласці назіраем наступныя лічбы: гарадскога насельніцтва — 390 тысяч 728 чалавек, сельскага — 311 тысяч 479 чалавек, адракліся ад роднае мовы 99 тысяч 690 чалавек гаражан і 6 тысяч 634 чалавекі вяскоўцаў. Сярод вясковага насельніцтва краіны — гэта самы малы працэнт адрокшыхся ад матчынай мовы...

Віцебская вобласць мае (звычайна пасля сталіцы!) самы вялікі працэнт беларусаў, якія не валодаюць роднай мовай, не лічаць яе роднай: з 681 тысячы 061 чалавека гарадскога насельніцтва аж 236 тысяч 739 чалавек! Сярод сельскага адрокшыхся 23 тысячы з 438 тысяч 626 чалавек.

Трэцяе месца па ліку беларусаў, якія здрадзілі сваёй роднай мове займае сярод гарадскога насельніцтва Гомельская вобласць: з 785 тысяч 280 чалавек такіх аж 226 тысяч 286 чалавек. Сельскіх жа адрачэнцаў тут 14 тысяч 277 чалавек з 552 тысяч 817 чалавек. Толькі 9 тысяч 717 чалавек сельскага насельніцтва Магілёўскай вобласці (з 407 тысяч 402 чалавек) сталі манкрутамі, а ў гарадах такіх манкрутаў 182 тысячы 105 чалавек з 644 тысяч 483 чалавек. Гэта што тычыцца па краіне ў цэлым і абласцях. А зараз давайце паглядзім, што ж назіраецца па гарадах абласнога падпарадкавання. Толькі ў двух гарадах краіны звыш 80% насельнікаў лічаць беларускую мову сваёй роднай мовай, у Вілейцы Менскай вобласці і ў Навагрудку Гарадзенскай вобласці. Яшчэ ў чатырох гарадах, а менавіта: у Дзяржынску Менскай вобласці, Маладзечне гэтай самай вобласці, Лепелі Віцебскай і Крычаве Магілёўскай абласцей лічаць роднай мовай беларускую ад 70 да 80% жыхароў названых гарадоў.

Ад 60 да 70% гаражан Смаргоні, Слоніма (Гарадзенская вобласць), Добруша, Светлагорска, Калінкавічаў, Мазыра, Рагачова (Гомельскай вобласці), Лунінца, Баранавічаў (Брэсцкай вобласці), Слуцка, Салігорска, Жодзіна, Заслаўя (Менскай вобласці) і г.Горкі Магілёўскай вобласці не здрадзілі матчынай мове. Толькі палова альбо крыху больш — ад 50 да 60% гараджан Барысава, Оршы, Ліды, Магілёва, Ваўкавыска, Асіповічаў, Жлобіна, Кобрына, Рэчыцы адназначна лічаць, што ў Беларусаў родная мова адна — б е ла р у с к а я ! І амаль гэтулькі насельнікаў гэтых гарадоў так не лічаць...

... Самымі зрусіфікаванымі беларусамі з'яўляюцца гараджане дзевяці гарадоў краіны: Менска, Віцебска, Берасця, Гародні, Гомеля, Бабруйска, Пінска, Полацка, Наваполацка, — беларускай мове засталіся вернымі і лічаць яе сваёй роднай мовай меней за 50% беларусаў-гаражан гэтых самых буйных гарадоў краіны...

Паўтаруся: дадзеныя за 1989 год, і таму не выключана, што на сёння, калі распачалася новая хваля русіфікацыі беларускага насельніцтва, лічбы гэтыя будуць яшчэ значна большыя на "карысць" манкрутаў. Мне здаецца, што чалавек, які не валодае роднай мовай, не лічыць яе для сябе роднай, не павінен лічыць сябе беларусам, бо які ж гэта беларус без беларускай мовы?! Манкурт ён і больш ніхто. Адрокся ад свайго роднага, і да іншага не прымуць, бо "прымакоў" сёння ніхто не любіць: усе з пагардай ставяцца да здраднікаў, не паважаюць іх, я ведаю гэтую сітуацыю на прыкладзе ўкраінцаў і Украіны, дзе мне даводзіцца жыць. Украінцаў, якія не карыстаюцца сваёй роднай мовай, у народзе завуць абразліва "хахол", а беларуса — "бульбаш". І хахол, і бульбаш — манкурты !!!

... Думаецца, што атлас "Беларусы" павінны вельмі добра вывучыць кіраўнікі ўстаноў адукацыі краіны, яе міністр В.Стражаў і ягоная каманда па Міністэрству адукацыі і навукі, якія так бяздумна і лёгка аддалі справу адраджэння беларускай мовы на водкуп манкрутам ! Бо калі не спыніць гвалтоўную русіфікацыю сёння, заўтра ўжо будзе позна, і калі апошні беларус адрачэцца ад сваёй мовы (альбо правільней сказаць: яго ад яе адвучаць!), то з геаграфічнай мапы знікне і сам назоў краіны "БЕЛАРУСЬ", а замест яе з'явіцца нешта накшталт "Манкурціі" альбо "Бульбоніі"... Схамяніцеся, людзі добрыя, падумайце, да чаго давядзе ваша лёгкадумнасць і падатлівасць да русіфікацыі. Сёння трэба сказаць сваё рашучае "Не — русіфікацыі ! Беларусі — не быць Манкурціяй!" Мы — Беларусы, наша родная мова адна — б е л а р у с к а я !!!

**Пятрусь Капчык**,філолаг
г.Ізяслаў,Украіна.

# МІЦКЕВІЧ — ВЯЛІКІ СЫН ПОЛЬШЧЫ ЦІ БЕЛАРУСІ ?

Дзвесце гадоў таму на хутары Завоссе паблізу Навагрэдка нарадзіўся вялікі паэт, "забіты шэкспірыст", як ён сам сябе называў, Адам Міцкевіч. Зараз вядзецца палеміка аб месцы нараджэння паэта. У Завосся Навагрудскага знайшоўся канкурэнт пад Баранавічамі. Хутка там нават маюцца аднавіць сядзібу бацькоў паэта. Што ж, месца нараджэння такой вялікай асобы заўсёды будзе выклікаць спрэчкі. Каму ж не хочацца мець такога славутага земляка?! можа, і сапраўды Адам Міцкевіч нарадзіўся не пад Навагрудкам, а бліжэй да Баранавічаў, але я, напрыклад, лічу, што ягоная Радзіма — Навагрудчына. Гэтаму спрыяюць шматлікія доказы. І тое, што ягоны бацька працаваў у Навагрудку адвакатам, і тое, што ў дзяцінстве будучы паэт вучыўся ў навагрудскай дамініканскай школе. Ды і ў саміх творах паэта можна знайсці пацверджанне таму, што ён вырас на навагрудскай зямлі. Адны назвы гавораць самі за сябе: "Свіцязь", Свіцязянка", "Мешка — князь Навагрудка".

Адам Міцкевіч у першую чаргу паэт, прытым паэт сусветны. Але кожны аўтар з сусветнавядомым імем мае ўсё ж свае карані. Чыім жа паэтам быў Адам Міцкевіч? Кажуць, польскім, бо пісаў папольску і лічыў сваёй краінай Рэч Паспалітую. Але ж і беларускім! Бо нарадзіўся на беларускай зямлі ў сям'і беларускага шляхціца, выхоўваўся на традыцыях і звычках тутэйшага люду. А галоўны доказ таму, што Адам Міцкевім быў беларускім паэтам, — гэта ягоная творчасць. Вялікая колькасць вершаў, паэм, баладаў прысвечана навагрудскай зямлі. На творчасць Адама Міцкевіча, асабліва раннюю, вялікі ўплыў мела вусная народная творчасць мясцовага жыхарства: паданні, легенды, песні. Дзеці ў сям'і Міцкевічаў выхоўваліся так, што ім бліжэй была беларуская засцянковая шляхта, чым вялікапольскія хлопы.

Тое, што творчасць Міцкевіча цесна звязана з беларускім фальклёрам, не адмаўляюць нават польскія даследчыкі паэта. Штосьці адмаўляць тут вельмі цяжка. Дастаткова толькі пазнаёміцца з творамі. Напрыклад, балада "Рыбка"

*Для пакінутай каханкі*
*Што засталося на свеце?*
*Прыміце мяне, Свіцязянкі !*
*Але маё дзіце,... ах, дзіце!*

Альбо іншая балада, "Лілеі"

*Злачынства тое нечувана*
*Пані забіла пана.*
*Забіўшы, хавае ў гаю,*
*На лагчыне, пры ручаю.*
*Магілу лілеямі засявае,*
*Засеяўшы, так спявае:*
*Расці, кветка, высока,*
*Як пан ляжыць глыбока;*
*Як пан ляжыць глыбока,*
*Так расці высока."*

Адам Міцкевіч у сваіх баладах часта выкарыстоўвае містычны свет. У "Рыбцы", напрыклад, Міцкевіч у якасці рэквізіту выкарыстаў камень, які быў відаць з дна ракі. Сваім дзіўным выглядам гэты камень нагадваў паэту два чалавечыя целы.

Адам Міцкевіч, на маю думку, быў вялікім прыхільнікам Вялікага Княства Літоўскага. Яму было наканавана жыць у той час, калі зямля, на якой ён нарадзіўся ўжо належала расейскаму цару. Але зямля можа належаць каму заўгодна. Гэта палітыка, а сэрца паэта было непадуладна палітыцы.

***Літва! Бацькаўшчына мая !*** — піша Адам Міцкевіч у сваім галоўным творы, паэме "Пан Тадэвуш". Але пры гэтым трэба ведаць гісторыю і разумець, што паэт меў на ўвазе не сучасную Летуву, а менавіта ВКЛ. Дарэчы, тэрмін "Літ-ва" згадваецца не толькі ў "Пане Тадэвушу". Сямікласнікі нашых школ маюць магчымасць пазнаёміцца з іншай, вельмі прыгожай паэмай "Гражына". Менавіта на гэтым мне б хацелася затрымацца трохі больш. Тое, што гэтую паэму школьніцтва вывучае па падручніку расейскай літаратуры, а не беларускай, мяне, мякка кажучы здзівіла. Але не толькі гэта. Цытую на мове арыгінала: "Перечитайте томик стихов, баллад и поэм польского поэта Адама Мицкевича...", "Они (творы Міцкевіча — Л.С.) запечатлели трагедию целого поколения польских патриотов..." і г.д.



Помнік Адаму Міцкевічу ў Лідзе

Пра Беларусь амаль ні слова, неяк хутка, нібы спяшаючыся, паведамляецца, што паэт нарадзіўся каля Навагрудка. Ну а потым гаворыцца колькі словаў пра самую паэму. Зноў цытую: "Гражина" — она правдиво воспроизводит то тревожное время, когда Литва постоянно вела жестокие бои с Тевтонским орденом".

Чытач, які не ведае гісторыі Вялікага княства Літоўскага, зробіць выснову, што і Ліда , і Навагрудак знайходзяцца на тэрыторыі сучаснай Летувы. Між тым, паэт зусім не тое меў на ўвазе. Дзеля таго, каб зразумець ягоную паэму, патрэбна зрабіць невялікі экскурс у гісторыю. Складальнікі падручніка па расейскай літаратуры гэтага не зрабілі, таму, на мой погляд, не зусім правільна канстатуюцца факты, апісаныя ў паэме. Складальнікі папярэджваюць, што героі паэмы — асобы выдуманыя. Але ж зямля, на якой вяршыліся падзеі, існавала на самой справе. Сам Адам Міцкевіч пісаў, што ён не прызнае краін, якіх няма на мапе. Паэма "Гражына" належыць да позняга сярэднявечча. Не ведаю дакладна, якія падзеі прымусілі напісаць гэтую паэму. Мне здаецца, што гэта была перамога войска пад камандаваннем гарадзенскага старасты Давыда над крыжакамі пад Навагрудкам (1314г.). Але нават калі не гэтыя падзеі прымусілі паэта ўзяцца за паэму, усяроўна, падзеі, якія адбываюцца ў паэме, адбываюцца на той "Літве", якая ў 13-16 стагоддзі аб'ядноўвала землі верхняга і сярэдняга Панямоння. У сучасным кантэксце гэтыя землі належаць Беларусі. Аб гэтым не згадана ў падручніку, а між тым, падручнік напісаны і надрукаваны не ў Маскве, не ў Варшаве, не ў Вільні, а ў Менску. Беларускія аўтары не кажуць усёй праўды беларускаму школьніцтву.

Дарэчы, і сам пераклад мае памылкі. На мой погляд, гэтыя самыя памылкі узніклі таксама таму, што перакладчык А.Таркоўскі не вельмі добра ведаў гісторыю таго часу.

*"Крест на плаше — на белой ткани четкий,*
*Рог за спиной, копьё в гнезде, и чётки*
*за поясом, и сабля на бедре.*
*Литовцем эти признаки не внове,*
*И рыцаря нетрудно им признать..."*

У Міцкевіча

***"Poznli meza Litwini z tych znakow,***
***Tak zawzdy bylo w Litwie i na Zmudzi,***

"Літва" — гэта тое, што я ўжо згадвала, а Жмудзь — гэта зямля сучасных этнічных летувісаў (была далучана да ВКЛ у канцы 15-га стагоддзя). Сам Міцкевіч раздзяляў Літву і Жмудзь. Перакладаць патрэбна было не "літоўцы", а "ліцьвіны".

Адама Міцкевіча ў роўнай ступені могуць лічыць сваім і палякі, і беларусы, і летувісы. Палякі яго заўсёды лічылі сваім, летувісы таксама, а вось беларусы наогул працяглы час творчасць паэта не вывучалі (я маю на ўвазе хрэстаматыйна). Ды і зараз творчасць Адама Міцкевіча падаецца не зусім так, як патрэбна. Доказ гэтаму — сучасны падручнік па расейскай літаратуры для сямікласнікаў. Тое, што Адам Міцкевіч пісаў на польскай мове — гэта даніна часу. У той час, калі ён тварыў, не было сучаснай літаратурнай беларускай мовы. Пачынальнікам яе стаў другі слынны сын беларускага народа Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. А тое, што паэт вельмі добразычліва адносіўся і да беларускай мовы, і да беларускага народу, пацвярджае сам паэт.

"... З усіх славянскіх народаў русіны (маюцца на ўвазе беларусы - Л.С.), гэта значыць сяляне Пінскай, часткова Менскай і Гарадзенскай губерніяў захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рысаў. У іх казках і песнях ёсць усё.

... На беларускай мове... гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек: Гэта самая багатая і самая чыстая гаворка... "

Яшчэ невядома, на якой мове пісаў бы свае шэдэўры Адам Міцкевіч, каб жыў трохі пазней. Адмаўляць прыналежнасць паэта да Беларусі самім беларусам — гэта, на мой погляд, усё тая ж знакамітая беларуская талерантнасць, якая можа давесці да таго, што беларусы як народ наогул знікнуць. Дарэчы, тыя ж палякі лічаць сваім кожнага, хто мае хоць вельмі малыя дачыненні да Польшчы. Асабліва гэта тычыцца людзей знакамітых. Ці навучымся мы гэтаму калінебудзь ?

*(Пераклады вершаў Міцкевіча аўтара).*

***Лілея Сазанавец,***
***г.Ліда.***

# РАДАСЛОЎНАЯ БЕЛАРУСКАЙ РЫНКІ.

З тае пары, як чалавек прыручыў агонь, а затым з яго дапамогаю вынайшаў посуд, ён пячэ, варыць, смажыць і пражыць розныя стравы. Час няўхільна імкне наперад, вынаходніцтвы становяцца здабыткам усіх, з паасобных прыёмаў і навыкаў нараждаюцца традыцыі. Ад страў, што гатаваліся і еліся з грубаляпных гаршчкоў, да лепшых узораў кулінарнага майстэрства і вытанчаных разнастайнейшых формаў кухоннага , сталовага і тарнага посуду. Карані многіх з'яў губляюцца ў глыбіні стагоддзяў. І падчас толькі археолагам пад сілу адказаць, калі з'явілася тая ці іншая рэч, як выглядала ў розныя часы, а калі пашчасціць — то і скуль прыйшла, дзе нарадзілася.

Адным з такіх посудаў з'яўляецца рынка. Так называлася гліняная патэльня на ножках з полым дзяржальнам або ручкаю-вухам. Зараз яе не сустрэнеш на кухні нават у вясковай хаце. Расказаць пра гэтую цікавую пасудзіну могуць толькі археолагі-медзіевісты. Каб атрымаць першапачатковае ўяўленне аб рынцы, звернемся да апісання яе знешняга выгляду.Крыніцай служыць нам матэрыялы археалагічных раскопак познесярэдневечных беларускіх гарадоў, замкаў і мястэчкаў. Найчасцей фрагменты рынак сустракаюцца ў культурных напластаваннях ХУІ-ХУІІІ ст. — у перыяд іх найбольшага распаўсюджання. Пераважная большасць мае глыбіню ад 3 да 5,5 см пры дыяметры венца ад 16 да 21 см. Дзяржальны (полыя ўтулкі) у начыннях ХУІ-ХУІІ ст. маюць на канцы адзін ці два рабрыстыя валікі. Розняцца формы і памеры ножак: ад невялічкіх конусападобных вышынёю 4,5 — 5 см, злёгку завостраных ці гарызан-тальна зрэзаных унізе да таў-ставатых вышынёй да 6,5 см. Апошнія часам маюць раўчук ад пальца ўздоўж усяе ножкі. Форма тулава найчасцей піялападобная з патоўшчаным скругленым, зрэзаным унутр ці гарызантальна венцам. На тэрыторыі Панямоння (Мірскі, Лідскі, Гальшанскі замкі, гарады Гародня і Слонім) рынкі ХУІ ст. выконваліся часта з верты-кальным борцікам , упрыгожаным зверху штампаваным арнаментам ці некалькімі паралельнымі стужкамі. Апошнія наносіліся пры дапамозе спецыяльнага грабенчыка: касцяной ці драўлянай прадаўгаватай пласціны з неглыбокімі зубчыкамі на вузкім боку.

Значна радзей разам з матэрыяламі сярэдзіны ХУІІ — перш.паловы ХУІІІ ст. сустракаюцца глыбокія (да 12 см.) рынкі, што нагадваюць канічныя місы ці макотры на нож-ках. Гэтае начынне з манжэтападобным венцам мае адну ці часцей дзве ручкі-вушы. Іх масіўныя дзесяцісантыметро-выя ножкі часам нагадваюць звярыную лапу. Начынне такога выгляду знойдзена ў вялікай колькасці пад час археалагічных раскопак Мірскага замка, у меншай ступені Гальшанскага замка і Мсціслава. Абедзве разнавіднасці рынак мелі накрыўкі. Часцей за ўсё яны ахоплівалі начынне зверху. Разам з тым, на Панямонні ўжываліся рынкі з раўчуком знутры па венцу, што прызначаўся пад накрыўку.

Мяркуючы па слядах нагару і копаці звонку на "чэраўцы" начыння, гэта перш за ўсё кухонная пасудзіна. Рынка вельмі трывала стаяла на трох ножках сярод вуголля, калі ў ёй смажылі яешню, кавалкі мяса ці птушак. Тоўсты (да міліметра) слой шклопадобнай палівы дадаткова ўшчыльняў яе ўнутраную паверхню. Дзякуючы гэтаму посуд чыста мыўся. Яна з поспехам магла ўпрыгожыць любую кухню. У адрозненне ад плыткіх, у глыбокіх рынках пераважна прыжылася яешня-баўтуха, розныя мясныя стравы. Таму вельмі натуральна было мець у гаспадарцы абедзве.

У познім сярэдневеччы ў Заходняй Еўропе, а так-сама ў Прыбалтыцы і Польшчы побач з рынкамі шырока ўжываліся шматлікія разнавіднасці посуду на трох ножках. Вядомы лінгвіст А.М. Трубачоў прааналізаваў назвы начыння на ножках у мовах чэхаў, харватаў, славакаў і вызначыў, што ўсе яны з'яўляюцца запазычанымі з сучаснага дыялектнага верхненямецкага raindel, rindel ( трохногі гліняны гаршчок ці тыгель), якія у сваю чаргу паходзяць ад старажытнанямецкага rain, rina. Ад асновы rine утварылася польскае rynka, rynezka, а таксама чэшскія, славацкія і іншыя прататыпы яго па меры распаўсюджвання гэтага віду посуду на той або іншай тэрыторыі. Зробленыя высновы не супярэчаць археалагічным звесткам.

Найбольш раннія знаходкі посуду на ножках зафіксаваны на тэрыторыі Германіі. Знойдзены там кругладонны непаліваны гаршчок на чатырох ножках з шырокім вусцем датуецца ХІУ ст. Самыя першыя з вядомых на Беларусі рынак на трох ножках таксама былі непаліваныя. Пра гэта сведчаць знаходкі некалькіх фрагментаў з Лідскага замка і з Мсціслава, датаваных ХУ ст. Як і гаршкі гэтага часу, яны зроблены на ручным коле, мелі ляпную ручку амаль цыліндрычнай формы. На начынні з Мсціслава яна дадаткова прымацоўвалася спецыяльным шыпом. Пазней увесь посуд, у тым ліку рынкі, вырабляўся на нажным коле з аднаго кавалка гліны. Потым да крыху падсохшага вырабу прыляпляліся ножкі і дзяржальна.

У ХУІ і асабліва ХУІІ ст. ужо паліваным начыннем на трох ножках шырока карысталіся як у Заходняй Еўропе, так і на Беларусі і сумежных з ёю тэрыторыях. Аднак неабходна адзначыць, што, напрыклад, у Германіі побач з неглыбокімі рынкамі шырока ўжывалася самае разнастайнае начынне ў выглядзе паліваных знутры гаршчочкаў на ножках. Яны маюць адну ці дзве петлепадобныя ручкі ці ручку-дзяржальна. Такі ж посуд знойдзены ў Прыбалтыцы. У Каўнасе ў музеі керамікі зберагаецца вялікая калекцыя іх. Звычайна знешняя паверхня гаршчочкаў аздоблена шмат раднымі стужкамі з дапамогаю таго ж грабеньчыка. У іх разагравалі невялікую колькасць ежы, гатавалі падлівы. Гэтае начынне магло ўжывацца і у якасці тыгелькоў у некаторых вытворчых працэсах. Нездарма гаршчочкі на ножках знайходзілі ў майстэрні шкларобаў. На Беларусі ведалі такое начынне ўжо ў сярэдзіне ХУІІ стагоддзя. Пра гэта сведчыць знаходка з Мірскага замка. Некаторыя асаблівасці начыння, а таксама адсутнасць аналогій у другіх беларускіх гарадах хутчэй за ўсё сведчыць аб прывазным характары вырабу.

З усіх відаў начыння на ножках у нас найбольш прыжылася звычайная рынка з піялападобным тулавам, блізкім па форме да шырока вядомых з канца 1 тыс. на ўсходнеславянскай тэрыторыі патэльняў з невысокім борцікам. Зрэшты, апошнія ў невялікай колькасці маглі існаваць паралельна з рынкамі.

У познім сярэдневеччы ў Беларусі былі вядомы і ўжываліся прывазныя рынкі. Маюцца на ўвазе белагліняныя рынкі пераважна ХУІ ст. з вертыкаль-ным борцікам. Ён упрыгожваўся штампаваным сеткавым арнаментам па знешняй паверхні. Рудая і зялёная палівы вельмі эфектна глядзеліся на белым фоне. Часам палівай пакрывалася не толькі ўнутраная, але часткова і знешняя паверхня. Іншаземнае паходжанне вырабаў было высветлена шляхам правядзення петраграфічнага аналізу складу глін, а таксама спектральнага аналізу палівы. Вывучэнне пісьмовых крыніц і этнаграфічных матэрыялаў дазволіла лакалізаваць месца вытворчасці белаглінянага посуду. У ХУІ ст. ён у вялікай колькасці фармаваўся у ганчарных майстэрнях польскага горада Ілжы. Потым белагліняныя паліваныя гаршкі, кубачкі і рынкі падарожнічалі па суседніх краінах. Спажыўцамі такога посуду, мяркуючы па матэрыялах з Беларусі, былі пераважна магнаты і гарадскія вярхі. Нездарма белагліняны посуд, у тым ліку рынкі, складае да 10-15% паліванага посуду ХУІ-пачатку ХУІІ ст., знойдзенага пры даследванні Лідскага , Мірскага і Гальшанскага замкаў. У гарадскіх слаях гэтага ж рэгіёна (гг. Гродна, Слонім) ён налічваецца адзінкамі.

Аналіз формы і арнаментыкі мясцовых начынняў паказвае, што беларускія ганчары не слепа перанялі форму еўрапейскага рынкі, а ўспрынялі саму ідэю ўжывання посуду на ножках. Ён быў вельмі ўстойлівым і зручным ва ўжытку, найлепш адпавядаў канструкцыі тагачасных печаў, што не мелі фаерак. Беларускія майстры пайшлі далей: узяўшы за аснову форму макотры ці глыбокай конусападобнай міскі і далучыўшы да яе элементы ад начыння на ножках, яны атрымалі змястоўную пасудзіну. Так побач з плыткімі рынкамі з ручкаю-утулкаю пачалі ўжывацца глыбокія з двума петлепадобнымі ручкамі.

Ёсць у рынак яшчэ адна рыса, што чыста па-чалавечы не можа пакінуць абыякавым ніводнага даследчыка. Даведаўшыся аб ёй, міжволі з патроеннай увагаю разглядаеш кожны кавалачак гэтага посуду. Я маю на увазе адбіткі пальцаў, што застаюцца звонку ў месцы прымацавання да тулава ножак і дзяржальна. Часам іх наўмысна не загладжвалі. Напрыклад, начынне з Лідскага замка можна пазнаць па своеасабліваму "кляйму" — адбітку пальца, што спецыяльна ставіўся знізу ля ножкі, што насупраць дзяржальна. Уражанне такое, як быццам ты адчуваеш цёплы дотык рукі ганчара, што перадаў нашчадкам рэч, у якую ўвасобіў сваё майстэрства, досвед, сваё ўяўленне аб прыгожым.

Безумоўна, з цягам ча-су навука абавязана выка-рыстаць і гэтыя адбіткі, каб даведацца яшчэ больш пра тагачасных ганчароў і іх спра-ву. А пакуль што радаслоў-ная беларускай рынкі яшчэ раз упэўнівае нас у тым, што беларускае ганчарства развівалася ў агульным русле еўрапейскай ганчарнай справы. Яно было ў стане ўспрымаць і ўспрымала новыя з'явы ў сваёй галіне. Першыя рынкі, што з'явіліся на Беларусі з канца ХУ ст., паступова ўвайшлі ў быт усіх слаёў тутэйшага насельніцтва. Удасканаленая мясцовымі майстрамі, яна набыла рысы традыцыйнага беларускага посуду. Пра яе "папулярнасць" сведчыць той факт, што на захадзе Беларусі рынкі вырабляліся аж да пачатку ХХ ст. (ганчарны цэнтр Поразава Свіслацкага раёна Гарадзенскай вобласці). У канцы ХІХ-пачатку ХХ ст. рынкі, магчыма, яшчэ вырабляліся ў Пружанах і Гарадной.

Паступовае скарачэнне вытворчасці, а потым і знікненне рынак было заканамерным. Новай канструкцыі печаў больш адпавядала круглая патэльня без ножак, з плоскім донцам, што паступова выцесніла рынку. Магчыма, адгалосак назвы гэтага начыння яшчэ дагэтуль бытуе ў гаворцы Слонімшчыны: невялічкую каструльку, часта з доўгім дзяржальнам там называюць рандэляк. Хочацца верыць, што беларуская рынка калі-небудзь ізноў вернецца да нас з дапамогаю нашых керамістаў, але ўжо ў новым абліччы, стаўшы сувенірам. І тады яна ізноў зойме пачэснае месца не ў адным сучасным доме.

*Ніна Здановіч*
*ст. выкладчык*
*Педагагічнага ун-та імя М.Танка.г.Менск*

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

**Банка. Банкет. Банкетка.**

Працягнем гутарку пра слова ***банкет***, распачатую ў нашай газеце № (9) 343 11 сакавіка 1998 г.

У Тлумачальным слоўніку беларускай мовы (Том першы. Галоўная рэдакцыя беларускай савецкай энцыклапедыі. Мінск, 1977, С.338) чытаем: **БАНКЕТ**. Урачысты абед ці вячэра з нагоды чаго-н. або ў гонар каго-н. [Фр. banguet] Словарь Иностранных слов под ред. И.В. Лёхина и проф. Ф.Н.Петрова. (Издание четвёртое, переботанное и дополненое. Государственное издательство иностранных и национальных словарей, Москва, 1954, С.97), дае тлумачэне: **БАНКЕТ** [Фр.banguet] — торжественный званый обед или ужин с участием научных, обшественных, политических деятелей, сопровождаемый речами. Пазнаёмімся з наступным тлумачэннем: **Banket**, ( ital.), das Festmahl: zu Ehren des auslandischen Castes ein B. geben, veranstelten dazu Abschieds-, Fest-, Staatsbankett. ( Worterbuch der deutschen Cegenwartssprache. Herausgegeben von Ruth Klappenbach und Wolfgang Steinitz. Akademie - Verlag. Berlin, 1962, St. 419).

(**Банкет**, [італ.] званы абед, вячэра, снеданне, баль, бяседа : у гонар замежнага госця даць банкет, сюды развітальны, святочны, парадны (дзяржаўны) банкет).

Да слова ***банкет***, якое ўжывае Якуб Колас у паэме "Новая зямля", найбольш прыймальнае тлумачэнне, якое дадзена ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы. Слова ***банкет*** сустракаем у паэме ў сэнсе святочнага застолля звычайных сялян:

Мой мілы Янка, мой Купала !
Ў агульны вір нас доля ўгнала.
Чаму ж, чаму часінай тою
Мы не спаткаліся з табою,
Каб стол сялянскага банкету
Развесяліў душу паэту?

*Якуб Колас. Новая зямля.*
*"Народная асвета", Менск, 1967.*

І госці свой банкет канчаюць,
Адны другім дабра жадаюць,
А ў час апошні развітання
Стаялі цмокі цалавання.
— Ну, выбачайце ж не крыўдуйце !
Калі што кепска, то даруйце !

Як бачым, паэт апісвае звычайны сялянскі банкет з нагоды падгляду пчол.

Словы ***банкет*** і ням. **Bankett** n, маюць агульную крыніцу паходжання. Звернемся да гісторыі слова **Bankett, das,** якую дае Фрыдрых Клюге.

**Bankett n** , званы абед ці вячэра. Ад нямецкага **Bank** запазычанае італ. **banco** дало **banchetto**, якое трапіла ў франц. і анг. як banfquet. Блізка 1500 г. было запазычана назад у нямецкую мову як моднае слова.

Слова **Bank f** , ***'лава'*** , сярэдневерхненямецкае **banc**, старажытнаверхненямецкае **bank**.. Германскае * **banki** — утворана ад дагерманскага * **bhongi** — ад развітага індаеўрапейскага ***bheg** — , гнуць, выводзіць, утвараць выгін'. / Friedrich Kluge. Etymologisches Worterbuch der deutschen Sprache. 20. Auflage bearbeitet von Walther Mitzka. Walter de Cruyter CO. Berlin 30, 1967. St. 48-49/.

Пацвярджае гэтую выснову і санскрыт. Тут **bhangi** абазначае злом, уступ, ступеньку, скрыўленне, крывізну. Месцы для сядзення ў старажытнасці выконваліся ў выглядзе ступенек, уступаў, высечаных на схілах пагоркаў ці ў скалах.

Банкамі да гэтага часу называюць лаўкі на караблях ці на лодках. Банкай называюць мель, на якую можа сесці карабель

У штодзённым побыце вядома слова ***банкетка.*** Беларускія, расейскія, польскія, нямецкія слоўнікі гэтага слова не падаюць. Разам з тым ***банкеткай*** называецца элемент мэблевага гарнітура, які ўяўляе сабой невысокую тумбачку, на якой можна сядзець і якая мае, як правіла, адкідны верх, таму ў тумбачку можна нешта класці, ***банкеткай*** часта называюць і арыгінальна выкананы табурэцік, як правіла, без традыцыйных ножак.

Валянціна Выхота, г. Менск

***Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік***

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

***Рэдакцыйная рада:***
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

***Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 6. 04. 98 г.
Наклад 3.500 асобнікаў. Замова №1003.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.